Год III. Верасень 1934 г. № 9 (33)

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты еси Петръ, и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. 16. 18.

**БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.**

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:




# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

**Цана асобнага нумару 20 гр.**

**Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.**

**„ год . . . . . 2. „**

**Заграніцу ўдвая даражэй.**

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.

Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.

Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Верасень 1934 г. № 9 (33).

# Нядзеля 16 па Сёмусе.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ РАЗ. 25, 14—30. ЗАЧАЛА 105.*

14. Бо так як чалавек, ад'яжджаючы, паклікаў сваіх слуг і перадаў ім сваё дабро

15. І даў аднаму пяць талентаў, другому-ж два, а іншаму адзін, кожнаму паводле яго сілы, і зараз ад'ехаў.

16. Той-жа, што дастаў пяць талентаў, пайшоў, зарабляў на іх і здабыў яшчэ пяць.

17. Таксама і той, што дастаў два, здабыў другія два.

18. А той, што дастаў адзін, пайшоўшы, закапаў у зямлю і схаваў грошы пана свайго.

19. Пасьля-ж доўгага часу вярнуўся пан гэных слуг і ўчыніў з імі разрахунак.

20 І прыступіўшы, каторы быў дастаў пяць талентаў, прынёс другія пяць талентаў, кажучы: Пане, ты мне даў пяць талентаў, вось я здаю другія пяць.

21. Сказаў яму пан ягоны: Добра, слуга добры і верны, таму што ты быў верны над малым, над многім цябе пастаўлю, увайдзі ў радасьць пана твайго.

22. Прыступіў-жа і той, што дастаў два таленты, і сказаў: Пане, ты мне даў два таленты, вось я здабыў другія два.

23 Сказаў яму пан ягоны: Добра, слуга добры і верны, таму што быў ты верны над малым, над многім цябе пастаўлю, увайдзі ў радасьць пана твайго.

24. А прыступіўшы і той, што дастаў адзін талент, сказаў: Пане, я ведаю, што ты чалавек строгі: жнеш, дзе не пасеяў і зьбіраеш, дзе не рассыпаў.

25. І я, баючыся, пайшоў і схаваў талент твой у зямлю, вось маеш, што тваё.

26 Адказваючы-ж пан ягоны сказаў яму: Слуга благі і лянівы! Ты ведаў, што я жну, дзе ня сеяў, і зьбіраю, дзе не рассыпаў.

27. Дык трэба было табе аддаць мае грошы банкірам і я, вярнуўшыся, узяў-бы, што маё, з прыбыткам.

28. Дык вазьмеце ад яго талент і дайце таму, што мае дзесяць талентаў.

29. Бо кожнаму маючаму будзе дадзена і будзе мець дастатак, а ў таго, хто ня мае, будзе, аднята ў яго і тое, што ён, здаецца, мае.

30. А некарыснага слугу выкіньце ў вонкавую цемру, там будзе плач і скрыгот зубоў.

---

Госпад наш Ісус Хрыстос вучыў праўдаў глыбокіх, Божых спосабам простым, зразумелым для кожнага. Маючы перад сабою простых земляробаў, Ён паслугоўваецца паняцьцямі земляроба, бярэ прыклады і расказвае прыповесьці з земляробскага жыцьця.

Ісус Хрыстос хацеў навучыць людзей, што яны самыя і ўсё, што маюць ды мець могуць, усе багацьці матар'яльныя ды духоўныя, усё, што істнуе на сьвеце, залежыць ад Тварца неба і зямлі, ад Бога. Чалавек зьяўляецца толькі як бы адміністратарам, валадаром, які мусіць здаць справаздачу свайму гаспадару, як карыстаў маемасьцяю Пана свайго.

Ісус Хрыстос людзям расказвае прыповесьць, як адзін пан, ад'яжджаючы ў далёкую дарогу на даўжэйшы час, раздаў сваю маемасьць, свае таленты слугам: аднаму даў 5 талентаў, другому 2, а трэцяму толькі адзін. Вярнуўшыся дамоў, пан паклікаў сваіх слуг і запатрабаваў ад іх справаздачы. Першы слуга і другі не змарнавалі талентаў, працавалі і павялічылі іх удвойчы. За гэта атрымалі нагароду; аднаму і другому гаспадар сказаў: **„Добра, слуга добры і верны. Таму што быў ты верны над малым, над многім цябе пастаўлю; увайдзі ў радасьць пана твайго“.** (Мац.25,23).

А трэці слуга меў найменш, толькі адзін талент; замест таго, каб працаваць, выкарыстаць маемасьць, лянівы слуга

закапаў талент у зямлю. Разгневаўся пан на слугу лянівага, казаў адабраць ад яго талент і даць маючаму дзесяць талентаў: „**А некарыснага слугу—кажа— выкіньце ў вонкавую цемру; там будзе плач і скрыгот зубоў**“. (Мац. 25, 30).

Госпад Бог не для таго дае свае дары, каб іх чалавек марнаваў, але каб выкарыстоўваў іх на славу Божую, а хто марнуе, таго чакае на судзе Божым справядлівая кара.

Хаця ўсе людзі ўзялі свой пачатак істнаваньня ад Бога, але ня ўсе людзі аднолькава атрымалі ад Бога дароў: адзін больш атрымаў, а другі менш. Кожны з нас мусіць сябе ў сваім сумленьні спытаць, якія атрымаў ад Госпада Бога таленты ды як іх выкарыстваў.

Вельмі многа людзей, асабліва з нашага беларускага народу, атрымалі ад Госпада Бога талент — веру, і той ня кожны стараецца належна выкарыстаць, каб па сьмерці атрымаць царства нябеснае.

Вера — гэта запраўды вельмі дарагі талент, вялікі дар Божы. Вера навучае чалавека, нашто ён жыве на сьвеце, паказвае чалавеку дарогу, якая вядзе да Бога, да вечнага шчасьця. Вера — гэта зорка ясная ў цёмным нашым жыцьці, каторая паказвае нам праўдзівы шлях жыцьцёвы. Чалавек, хаця-б вельмі мала атрымаў ад Бога дароў, толькі адну веру, і гэты дар выкарыстоўваў-бы, гэта значыць, жыў-бы паводле веры, напэўна атрымаў-бы потым ад Бога вельмі многа і да яго Госпад сказаў-бы: „**увайдзі ў радасьць пана твайго**“ (Мац. 25, 23).

Нажаль, ня ўсе выкарыстоўваюць вялікі дар веры для вечнага свайго шчасьця. Шмат людзей, асабліва ў нашыя паваенныя часы, зусім згубілі веру ў Бога. Вераць яны ці ня вераць, аднак сустрэнуцца з Богам справядлівым Судзьдзёю, Каторы запатрабуе ад іх справаздачы з даручанага ім таленту. І калі слугу нядбалага Госпад Бог казаў укінуць у цемру вечную, дзе будзе плач ды скрыгот зубоў, то што гаварыць аб тых, што зусім змарнавалі дар Божы?

Найбольш аднак жа паміж беларускім народам можам сустрэць людзей трэцяй катэгорыі: не належаць гэтыя людзі да першае катэгорыі, бо ня жывуць паводле веры, таксама не належаць да другой, бо не выракаюцца Бога, не дайшлі яшчэ да неразумнае зухваласьці, пярэчыць таму, чаго ня ведаюць. Трэцяй катэгорыі людзі, праўда, вераць у Бога, але гэта вера іх не праяўляецца ў жыцьці, а „**вера бяз учынкаў, — як кажа Сьв. Якаў Апостал, — ёсьць мёртвая**“ (Як. 2, 26). Такі чалавек падобны да слугі нядбалага: атрымаў талент ды закапаў у зямлю, бо меў страх перад гаспадаром сваім, — баяўся згубіць талент і думаў, што даволі з яго будзе, калі перахавае талент, думаў, што пахваліць яго гаспадар, — аднак-жа, як бачым, ён вельмі ашукаўся: сустрэла яго справядлівая кара.

Таксама і многа па нашых вёсках яшчэ ёсьць веручых людзей, але вера іх бяз добрых учынкаў. Думаецца гэтым людзям, што даволі будзе з іх, калі не выракаюцца Бога. О не, мае даражэнькія, гэтага мала: ня толькі трэба верыць, але маем абавязак выяўляць нашу веру ў учынках, жыць паводле навукі нашае веры. Калі мы верым, але ня жывём паводле веры, дык самі сябе ня збавім і другім перашкодзім збавіцца.

Раскажу прыклад. Манашка дамініканка Марыя Станіслава, апякунка пракажаных на востраве Сьв. Тройцы, у адным з сваіх пісьмаў піша аб хворым індыйцу, каторы ад'значаўся вельмі лагодным характарам, вучыўся катахізму, але не выяўляў ахвоты быць ахрышчаным. Называўся Чандар. Спыталася ў яго манашка, ці мо' ён пратэстанскім пастарам ахрышчаны. Бядак ня ведаў што адказаць, момант памаўчаў, а пасьля, вельмі ўзрушаны, кажа:

— О не, матушка, я яшчэ не хрысьціянін, праўда, веры ў я ў Бога адзінага заўсёды і нічога я таго не рабіў, праз што мог-бы гнеў Яго на сябе сьцягнуць. Ад таго часу, як слухаю тваіх навукаў, ведаю, што Хрыстос ёсьць Богам, але чакаў, каб пазнаць усё, пазнаць тваю веру лепей. Ці ведаеш, матушка, што мяне ад хрысьціян адварочвала? Гэта іх дрэннае жыцьцё, — не магу сьцяміць, як некаторыя з іх кажучы, што вераць у Бога, што Хрыстос ёсьць у царкве, ня ўстрымліваюць аднак-жа сябе ад найгоршых учынкаў ды з сумленьнем так брудным ідуць, як-бы маліцца. Я баяўся-б нават увайсьці ў царкву, каб камень які не адарваўся ад скляпеньняў і не забіў мяне на месцы.

Пасьля прыракаў гэты хворы, што калі прыедзе ў Калькуту (там за некалькі дзён выехаў), прыйме сьв. Хрост, пры гэтым паўтараў:

— Калі ўверу, напішу да цябе, што я ахрышчаны, а тады будзь перакананаю, матушка, што буду хрысьціянінам ня толькі вонкава, але ўсёю душою. Толькі прашу цябе, маліся за мяне да Багародзіцы. Помню, як ты раз нам казала, што Яна ўсё выпрасіць можа.

Дала матушка яму мідалік, каб у дзень Сьв. Хросту ўлажыў яго сабе на шыю. Перад ад'ездам, цэлая грамада 50 індыйцаў, хрысьціяне ды паганцы, пайшлі да часоўні ды са сьлёзамі ў вачох дзякавалі ім за ўсе клопаты каля іх, перапрашалі за свае правіннасьці.

Чандар адзін застаўся ў часоўні, стаяў на каленах доўга. Апошнімі яго словамі былі: „У небе мая душа ўгледзіць усіх, што тутака пазнаў на зямлі. Бывай, матушка, не забывай ды маліся!".

Вось прыклад, як трэба ўглядацца на жыцьцё хрысьціяніна.

Часта можна сустрэць хрысьціян па нашых беларускіх вёсках, што раз або два на год ходзяць у царкву, што

кожную нядзельку ды сьвята працуюць, праклёны ды дрэнныя словы часта з вуснаў іх можна пачуць. Які-ж з такога чалавека хрысьціянін, што варта яго вера? Яна мёртвая, закопана глыбока ў зямлю. Такая вера нічога няварта, ня дасьць шчасьця вечнага чалавеку.

Пакуль чалавек жыве, яшчэ ня ўсё прапала, можа перамяніцца, можа вера яго ажыць.

Будзем-жа ня толькі верыць, але і жыць паводле веры, а такая вера дасьць нам шчасьце вечнае. Госпад Бог і да нас скажа: „Добра, слуга добры і верны! Таму што быў ты верны над малым, над многім цябе пастаўлю; увайдзі ў радасьць пана твайго". (Мац. 25, 23). Амін.

*а. Антоні.*

# Адозва Япіскапату Польшчы

**ў справе помачы для зруйнованых паводкаю.**

Наймілейшыя! Няпамятная бяда скацілася з нашых прыгожых гораў на вялікую паласу краю. Спусташальная паводка заліла разьлежныя ваколіцы, укрытыя дасьпяваючым жнівом. У хвалях гінула жыцьцё і маёмасьць. Перад спакойным, працавітым жыхарствам стала здань голаду. Без якога-небудзь запасу вяртаюцца пацярпеўшыя ад паводкі да развалінаў сваіх хатак, на замуленыя загоны, на якіх згінула іх праца за ўвесь год.

Гэтая катастрофа накладае на нас абавязак надзвычайнага высілку і раптоўнае помачы. Пабуджэньні веры і хрысьціянскага братэрства павінны стварыць вялікую справу малітвы і ахвяры на карысьць няшчасных. У Юбілейны Год мы не маглі-б вонкавым чынам лепш выразіць Збаўцы свайго паважаньня і ўдзячнасьці, як сьпяшаючы з падмогаю тым, хто, дзякуючы сваёй нядолі, стаў нам асабліва бліжнім.

Наймілейшыя, складайце складкі на пацярпеўшых ад паводкі! Супрацоўнічайце з камітэтамі помачы. Падтрымлівайце іх акцыю і зборы. Будзьце шчодрымі да „ўсякага добрага паступку".

Асобную складку на пацярпеўшых ад паводкі загадваем ува ўсіх цэрквах на нядзелю 5-жніўня. Абвесьціць яе і падрыхтуе парафіяльнае і манашаскае духавенства. У імя Хрыста Адкупіцеля ўсе зложым у гэты дзень сваю юбілейную міласьціню на няшчасных братоў. Кіраўнікі Цэркваў адашлюць гэтыя ахвяры зараз-жа да адносных Япіскапскіх Курыяў.

„Воды многія ня могуць загасіць любові" братэрства, з якою „патрэбам сьвятых удзяляцца" маем. 22 ліпня 1934 году.

**(—) Подпісы ўсяго Каталіцкага Япіскапату Польшчы.**

Айц. Я. Урбан.

# Праца для Уніі ў Манджу-Ді-Го.

На пачатку ліпня прыбыў у Польшчу Я. Пр. Архімандрыт Фабіян Абрантовіч, апостальскі адміністратар для каталікоў усходн. абр. на Далёкім Усходзе. З Харбіна, дзе працуе, прыбыў у Эўропу на колькімесячны пабыт, як у справах паверанага яму дзела, так і для часовага адпачынку. Мы скарысталі з выпадку, каб распытацца ў айца Архімандрыта аб варунках унійнае працы на паверaным яму абшары, а таксама і аб яе дасюлешніх рэзультатах.

Але, перш за ўсё, пара словаў аб самым Архімандрыце. Ён ня ёсьць постацьцю чужою і невядомаю. Выхаванец пэтэрбурскае духоўнае акадэміі і каталіцкага унівэрсытэту ў Лёваніюм, ён належаў да кліру магілёўскае архіепархіі. У гады расейскае рэвалюцыі і вызваляньня Польшчы, калі вернута была менская епархія, стаў найбліжэйшым памоцнікам яе новага Япіскапа, сьв. пам. Жыгімонта Лазінскага. Тады вось арганізоўваў духоўную сэмінарыю ў Менску, якая нажаль мела нядоўгае жыцьцё; закладаў школы ў Наваградку; нарэшце, пасьля ўтварэньня пінскае епархіі, ізноў быў арганізатарам і першым рэктарам сэмінарыі, для якое адбудаваў будынак з руінаў францішканскага манастыра. Як пралат капітулы, пачуў манашаскае пакліканьне і ў 1926 г. паступіў у навіцыят АА. Марыянаў у Друі, жадаючы працаваць у будучыні для справы Уніі. Але ўжо ў 1918 г. Піусам XI быў абцяжаны труднаю місіяй арганізаваньня гэтае справы ня ў краі, а на Далёкім Усходзе, назначаны Ардынатарам усіх каталікоў усходняга абраду ўва ўсім Кітаі. Дык і выехаў зараз-жа ў Харбін, як найбольшы расейскі цэнтр на Далёкім Усходзе за межамі Савецкае Расеі.

Якія былі пачаткі арганізацыі каталікоў усходняга абраду ў Харбіне?

Харбін — сяньня вялікі горад, паўстаў у сувязі з будоваю Расейцамі ўсходня-кітайскае чугункі, што ідзе з Сыбіру праз кітайскую Манджурыю да расейскае прыморскае правінцыі і да Порт-Артуру на паўдні. Нічога дзіўнага, што вырас адразу, як горад расейскі, маючы ўласнае кіраўніцтва, на моцы ўмоваў Расеі з Кітаем. Разам з горадам будаваліся таксама і праваслаўныя цэрквы; паўстала нават асобнае харбінскае архіяпіскапства. Зразумела, што наплывала таксама і туземнае насельніцтва, Кітайцы, якія пражываюць пераважна ў асобных дзялянках. Пры будове чугункі працавала шмат Палякоў, шмат іх атрымала службу на чугунцы і ў адміністрацыі; гэтак паўстала значная польская колёнія, якая таксама пастаралася аб касьцёле, духоўніках,

з'арганізавала свае школы і культурныя інстытуцыі. У Манджурыі ўжо істнавалі каталіцкія місійныя арганізацыі, залежныя ад прапаганды ў Рыме, а ведзеныя місіянэрамі Француэамі, але Палякі атрымалі духоўніка з Пэтэрбургу, і іхная парафія, зложаная з працаваўшых ў концэсійнай расейскай паласе, таксама залежала юрысдыкцыйна не ад францускага місійнага япіскапа, але ад далёкае магілёўскае мітраполіі. Пасьля вялікае вайны і бальшавіцкае рэвалюцыі, расейскі элемэнт у Харбіне яшчэ пабольшаў на шмат тысяч эмігрантаў, так што цяпер ёсьць у горадзе Расейцаў 70.000, а ў цэлай Манджурыі каля 200.000. Павялічылася часова таксама і лічба Палякоў, якая пасьля ступнёва зьмяншалася, па меры адплыву іх да вольнае бацькаўшчыны.



**Група каталіцкіх сьвяшчэньнікаў усходня-славянскага абраду на чале з Я. Пр. Архімандрытам Ф. Абрантовічам і сьвяшч сьвяшч. А. Сіпягіным (на лева) і Кн. Волконскім (на права).**

У 1925—1926 гадох палажэньне каталікоў, у сэнсе царкоўным, паддалося некаторай зьмене. Калі створана была ў Уладывастоку каталіцкая епархія, дык манджурскія Палякі былі таксама адданы пад уладу яе першага Япіскапа Сьлівоўскага, які, па прычыне ўмацаваньня ў Уладывастоку бальшавікоў, ня мог выпаўняць сваіх правоў над заграмічнымі вернымі і пераліў іх на А. Гэрарда Пятроўскага, номінальна апостальскага вікарыя Сыбіру, але прабываўшага ў Харбіне, па прычыне немагчымасьці ўезду ў Сыбір. Настаяцелем Палякоў заставаўся яшчэ з перадваенных часоў А. Ул. Астроўскі, арганізатар гэтае парафіі і наагул каталіцкага жыцьця сваіх землякоў. Айц. настаяцель Астроў-

скі, абслужваючы сваю парафію, заўважыў, што і шмат праваслаўных Расейцаў ахвотна адведваюць касьцёл сьв. Станіслава і іх можна было-б набыць для Каталіцкае Царквы, калі-б для іх з'арганізаваць духоўную працу ў іхнай мове і іх абрадзе. Сам меў часам прамовы расейскія да тых гасьцей у касьцёле. З праваслаўнага кліру каталіцызмам зацікавіліся два сьвяшчэньнікі, бацька і сын Кароніны. Сын, Канстантын Каронін, калісьці законавучыцель расейскіх школаў у Варшаве, меў нават у харбінскім саборы канфэрэнцыі аб патрэбе аб'яднаньня цэркваў, пры даволі прыхільным настроі да гэтае ідэі мясцовага архіяпіскапа Мяфода. Бацька, Іоан Каронін, заявіў фармальны пераход у каталіцтва і 6-га студня 1926 г., пасьля злажэньня вызнаньня веры, адправіў першы раз літургію ў каталіцкім касьцёле сьв. Станіслава. Аб гэтых выпадках, як і аб відах на унійную акцыю а. Астроўскі здаў справу Монсіньёру архіяпіскапу дэ Гэбрыану, які, як сцэцыяльны дэлегат сьвятое Сталіцы, дасьледжваў царкоўныя адносіны ў Манджурыі. Тымчасам закладзена была каталіцкая капліца ўсх. абраду, якую пасьля сьмерці абодвух Кароніных (сын не пасьпеў злажыць фармальнага вызнаньня веры), пачаў абслужваць а. Кавалёў, які таксама з праваслаўя прыступіў да адзінства з Каталіцкаю Царквою.

У 1928 г. а. адміністратар Пятроўскі паставіў новы будынак на інтэрнат для каталіцкіх дзяўчат і паверыў яго справаджаным з Польшчы СС. Уршулянкам. Гэта мела быць сярэдняя школа з выкладоваю англійскаю моваю, прызначаною, як для польскіх дзяўчат, так сама і для Расеяк. Інтэрнат адразу запоўніўся, і аказалася, што большасьць вучаніц і выхаванак — Расейкі, бо польскія дзяўчаты мелі яшчэ на выбар коэдукацыйную гімназію імя Г. Сенкевіча. У тым жа 1928 годзе, 31 траўня, быў утвораны сьв. Сталіцаю Ардынарыят усходн. абраду для Кітаю, з рэзыдэнцыяй у Харбіне, і кіраўніцтва гэтае новае адзінкі паручана было якраз а. Ф. Абрантовічу, які і прыбыў у Харбін ужо 6 лістапада таго самага году і абняў папячэньне над маленькаю грамадкаю каталікоў Расейцаў ды адным духоўнікам. Меў спачатку стадачку гэтак малую, як калісь Грыгоры Цудатворца, калі абнімаў япіскапства, зложанае з 12 верных. Айц. Абрантовіч не адступіў перад труднасьцямі, паходзячымі ня толькі з боку праваслаўных, але і каталікоў, і ўзяўся за працу, каб споўніць волю сьв. Айца. У наступным годзе, калі а. Пятроўскі быў адкліканы з Харбіна, Апостальская Сталіца даручыла а. Абрантовічу таксама і верхнюю ўладу над польскаю парафіяй. Толькі ў 1931 г. звольнілі яго ад гэтага абавязку, спаўняньне якога натыкала яго на падазрэньне, што русыфікуе Палякоў. Таксама і супольнасьць польска расейская ў закладзе СС. Уршулянак ака-

залася непрактычнаю, бо абедзьве староны баяліся: польская — русыфікацыі, а расейская польшчаньня дзяцей. Дык ужо ў 1930 г. Уршулянкі разьдзяліліся на два дамы: лацінска-польскі і ўсходня расейскі. Гэты апошні застаўся ў будынку, збудаваным а. Пятроўскім пры грашовым удзеле Камісіі *pro Russia;* польскі заклад памясьціўся ў нанятым для яго а. Абрантовічам памешканькі. У польскім закладзе, па прычыне істнаваньня коэдукацыйнае гімназіі, нельга было ўтрымаць роўня сярэдняе школы. Дык пакрысе расшырыў ён сваю дзейнасьць і на кітайскае насельніцтва, творачы прытулак і катэхумэнат. Расейскі заклад, добра ведзены Маткаю Лёйоляю Сьлівоўскаю (сваячкаю с. п. япіскапа ўладывастоцкага), утрымаўся на роўні гімназіі і разьвіваецца што раз больш. Дадайма тут, што ад 1931 г. а. настаяцель польскае парафіі Астроўскі ёсьць разам і Ардынатарам для лацінск. абраду, як дэлегат Апостальскага Дэлегата на Кітай з рэзыдэнцыяй у Пэкіне.

Які ёсьць лічэбны стан каталікоў усходняга абраду?

Нязначны пэўна ж, але ўжо розьніцца ад таго, які застаў а. Архімандрыт шэсьць гадоў назад. Адно скупішча каталікоў гэтага абраду ёсьць у Харбіне, другое аж у адлеглым на колькі тысяч кілёмэтраў Шанхаі. Верных у Харбіне апошнімі тыднямі было дакладна 152, у Шанхаі каля 200. Цэлы клір складаецца з Апостальскага Адміністратара, яшчэ аднаго духоўніка манаха, Марыяніна, з а. Кавалёва і ў Шанхаі працуе архімандрыт Мікалай Аляксееў, набыты для Уніі з праваслаўя. У Харбіне памагаюць таксама два браты Марыяне. У гэтым годзе маюцца ад'ехаць два новыя духоўнікі з таго-ж манашаскага таварыства. Шанхай мусі будзе аддзелены ад адміністрацыі а. Абрантовіча і адданы пад апеку мясцовага апостальскага вікарыя з закону АА. Езуітаў. Адтуль сваю ўвагу концэнтруе а. Архімандрыт Абрантовіч на Харбін і Манджурыю, якая, з нядаўнага часу, ёсьць асобнаю імпэрыяй пад пратэктаратам і кіраўніцтвам Японіі.

Галоўны абшар каталіцкае працы для Расейцаў — гэта школы і гуманітарныя заклады. Ёсьць іх ужо пад юрысдыкцыяй а. адміністратара некалькі. Назавем іх па чарзе.

Першым ёсьць прытулак расейскі (**русскій пріютъ**) пад кіраўніцтвам Сёстраў Францішканак Місіянэрак. Істнаваў ужо з 1924 г., месьцячыся ў чугуначным доме ў Старым-Харбіне. У 1930 г. быў наняты для закладу ад кіраўніка чугункі п. Хорвата абшырны двор з паркам. У нядоўгім часе Сёстры прыступяць да будовы ўласнымі сіламі большага закладу на пляцы, купленым ужо а. Абрантовічам. Сёстры Францішканкі, у лічбе 10, паходзячыя з розных нацыянальнасьцяў(адна Палячка), выхоўваюць каля 200 дзяўчынак, пераважна расейскіх сіротаў. Каталічак ёсьць у гэтым

ліку каля 50, рэшта — праваслаўныя. Другі заклад СС. Францішканкі адчынілі ў Чанчуне, цяпер названым Сін-Кінг, сталіцы дзяржавы Маджу-Ді-Го. Гэта — школа на 35—40 расейскіх дзяцей, пераважна з Харбіна і чугуначнае лініі. Сёстры, паходзячыя з лацінскага абраду, не мяняюць яго, але слухаюць сьв. літургію ўва ўсходнім абрадзе і ў гэтым абрадзе прымаюць Сьв. Прычасьце, паводле агульных асноваў царкоўнага права. Па палудні адпраўляецца для іх лацінская служба з багаслаўленьнем Прасьв. Дароў.

Аб усходнім закладзе СС. Уршулянак мы ўжо гаварылі. На чале яго стаіць М. Сьлівоўская, працуюць у ім пяць харавых сёстраў і гэтулькі ж сёстраў конвэрсак, апрача аднае амэрыканкі ўсе з Польшчы. Цяпер рыхтуюцца да выезду некалькі новых сёстраў. Дасюль гэта была жаноцкая гімназія (з англійскага называная College), як для прыходзячых, так і для інтэрністак; цяпер заменена на зачынены інтэрнат з мэтаю ўтрыманьня аднолькавасьці кірунку. Выкладовая мова англійская, парасейску выкладаецца рэлігія, расейская гісторыя і рас. літэратура. Апрача манашак, выкладаюць сьвецкія вучыцялі і вучыцелькі, што нязьмерна абцяжвае бюджэт закладу, асабліва таму, што большасьць дзяцей — гэта дзеці бедныя, якім павінны рабіцца льготы ў аплатах, або якіх трэба вучыць і ўтрымліваць дарма. У апошнім школьным годзе заклад меў 100 дзяўчат, у тым ліку 20 каталічак усходняга абраду і колькі лацінск. абр.

Справаю, абяцаючаю вялікую будучыню, ёсьць Ліцэй сьв. Мікалая для хлопцаў. З 1924 да 1929 году істнавала ў Харбіне школа, закладзеная а. Пятроўскім для Сыбіру, якая з прычыны недаступнасьці Сыбіру ня мела далейшае рацыі быцьця. У 1929 г. быў пакліканы да жыцьця заклад для хлопцаў, ахвяраў бальшавіцка-кітайскага непаразуменьня ў Прыморскай Правінцыі. Камісія pro Russia пераказала яму сэмінарыю а. Пятроўскага. Першабытны дом быў значна расшыраны а. Абрантовічам, так што можа памясьціць да 120 выхаванкаў. У апошнім годзе было іх 92, у тым ліку каталікоў 36. Цэлая, напр. 6-я кляса складаецца з адных каталікоў. Заклад ёсьць інтэрнатам і гімназіяй тыпу даўнейшых расейскіх клясычных гімназіяў з грэкаю і лацінаю.

Як відаць, найбольшым клопатам а. Архімандрыта ёсьць гэтыя заклады. У іх мо' выхоўваецца новае пакаленьне, ужо каталіцкае, Расейцаў, якія з часам могуць адыграць важную ролю апосталаў праўдзівае веры сярод свайго грамадзянства. Але гэтых маладых душаў ня змушаюць да прыняцьця каталіцызму. Могуць карыстацца закладамі, не зьмяняючы веравызнаньня, і, як кажуць прыведзеныя цыфры, большасьць іх застаецца праваслаўнымі. Ужо будзе вялікі плод каталіцкае акцыі, што гэтыя душы пазбудуцца ўпярэджаньняў да каталіцызму, закінуць варожую да яго пазыцыю, гэ-

так часта сустрачаную сярод праваслаўных Расейцаў. Фармальна прымаюцца ў каталіцызм толькі тыя хлопцы і тыя дзяўчынкі, якія да гэтага падгатоўлены, жадаюць пераходу і атрымалі на гэта выразнае пазваленьне ад сваіх бацькоў ці апякуноў.

Ці каталікі ўсходняга абраду маюць у Харбіне публічную сьвятыню?

Дасюль маюць толькі тры капліцы пры трох названых закладах, апрача таго чацьвёртую за горадам у вільлі, прызначанай на вакацыі для дзяцей. У трох гарадзкіх капліцах штодня адпраўляюцца літургіі. Найбольшую капліцу мае Ліцэй сьв. Мікалая, бо яна можа зьмясьціць 500 асобаў. Сюды пераважна прыходзяць верныя з гораду і праваслаўныя, якія хочуць пазнаёміцца з каталіцызмам. Капліца ў чэсьць сьв. Мікалая мае ўсе ўладжаньні, паводле вымогаў усходняга абраду; апрача таго ўзбагацілася рэліквіяй свайго Патрона, прывезенаю з Бары ў Італіі і ўкладзенаю ў багаты рэліквіяр. Сьв. Мікалай ёсьць асабліва паважаны ў Харбіне ня толькі праваслаўнымі, але нават і Кітайцамі-паганцамі. Абраз яго дасюль займае пачэснае месца на вакзале і якраз Кітайцы перашкодзілі бальшавіком ухіліць гэтага „старыка вакзала“, як называюць Сьвятога.

Якія ёсьць віды унійнае акцыі на будучыню?

Рэзультаты нашых высілкаў у руцэ Божай. Як дасюль, дык гэтулькі дасягнена, што шмат упярэджаньняў да каталіцызму разьвеялася. Расейская інтэлігэнцыя ў вялікай меры аказвае прыхільнасьць. Праваслаўнае духавенства, зразумелая рэч, бараца з каталіцкаю працаю, але і яно ня можа запярэчыць, што каталіцкія школы паднімаюць рэлігійны і моральны ровень моладзі. Сама Царква, хоць і мае на месцы архіяпіскапства, не вядзе падобных закладаў абмяжоўваючыся будоваю цэркваў, якіх ужо мае нешта каля 20. Выхаваньне маладога пакаленьня знаходзіцца ў руках сьвецкіх людзей, якія трактуюць яго толькі з фінансавага пункту. Няма таксама дабрадзейных праваслаўных інстытуцыяў. Нічога дзіўнага, што каталіцызм мусіць здабыць сабе прызнаньне якраз цераз асьветную і дабрадзейную працу. Калі выкліча эмуляцыю праваслаўных, дык можна будзе толькі цешыцца з гэтага.

Унійная праца, паўстаўшая ў гэткіх цяжкіх варунках і з гэткімі нязначнымі пачаткамі, будзе пры помачы Божай ведзена далей. Цяпер, апрача моладзі, здабыла яна ўсяго некалькі цэлых сем'яў і некаторы лік паасобных душаў. Але не аб колькасьць „наверненых“ ідзе, якою можна-б выказацца, калі-б рабілася якая-небудзь прэсія, а аб якасьць і трываласьць навярненьняў. Дадайма тут, што для каталіцкае місіі будзе мець дадатнае значэньне ўпарадкаваньне палітычных адносін і бясьпечнасьці ў краі, што з дня на

дзень пад кіраўніцтвам Японцаў умацоўваецца. Дзеля разьвіцьця спэцыяльна ўсходняга абраду асабліва карысным зьяўляецца што раз дык лепшае зразуменьне справы сярод мясцовага польскага грамадзянства, якое спачатку глядзела на яе падазронна і часта крыўдна. Цяпер адносіны ўлажыліся, непаразуменьні выясьніліся; паміж іншым адносіны паміж апостальскаю адміністрацыяй і польскім консулятам задавальняючыя.

У далейшым працягу размовы а. Архімандрыт паінфармаваў, што, з мэтаю азнаямленьня харбінскіх Расейцаў з Царквою, ужо тры гады выдаецца часопісь „Католическій Вѣстникъ", у якім супрацоўнічае пара выдатных інтэлігэнтных Расейцаў. Выдаюцца таксама і брашуры зьместу аполёгэтычнага, гістарычнага і догматычнага; зроблена новае выданьне вядомае кнігі: „Папа Рымскі і папы ўсходняе Царквы". Гэта пісьменьніцка-выдавецкая праца павінна быць ведзена далей і яшчэ болей разьвінена.

(„*Oriens*").

## Пасьля збору.

З поля ўсё сабралі людзі
І пад жыта ўжо гаруць —
Не'к лягчэй ўздыхаюць грудзі,
Хоць дні восені бягуць.
Ды затое ў гумнах рана
Пачынаюць біць цапы,
Клічуць вёску да ўставаньня,
Бы у цэркаўку званы.
Гук іх звонка ў высь нясецца,
Моў да радасьці прызыў,
Часам рэхам адаб'ецца,
Як аб бераг хваль наплыў.
Ўцеха сэрцу земляроба,
Што у пору ўсё сабраў,
Што мець будзе ўдоваль хлеба,
Што торп жыцейка наклаў,
Хоць ня ўсьпее скончыць працы,
Як учуе кліч званоў,
Ён сьпяшае Сыну, Матцы
І Айцу аддаць паклон.

*Янка Невук.*

# Пакорная просьба.

*Найдаражэйшыя ў Хрысьце Духавенства і людзі праваслаўныя!*

Сягоньня, у дзень пасьвячаны памяці сьвятых айцоў першых шасьцёх сусьветных сабораў, радзіўшых над захаваньнем чыстаты Хрыстовай навукі, да каторай нясумленныя людзі прымешвалі свае выдумкі, калі ў сьв. Эвангельлі чытаем, як Госпад наш Ісус Хрыстос перад сьмерцяй сваёй маліўся Богу Айцу: **„Отче святый, соблюди ихъ во имя твое, ихже далъ еси мнѣ, да будутъ едино, якоже и мы,“**— асьмельваюся адазвацца да Вас, Айцы і Браты, з просьбаю каб захацелі Вы шчырэй прызадумацца над патрэбай сусьветнага злучэньня ў адно ўсіх тых, хто Хрыста Бога і Спаса нашага прызнае за свайго Бога і Спаса. Падумайма аб словах малітвы Хрыстовай, прыведзеных з сягоньняшняга Эвангельля (Іоан. Гл. 16,11). Відаць, што Хрыстос бачыў тады сваімі Божымі вачыма, што яго авечкі ня будуць трымацца адзінства, ня будуць слухаць аднаго, устаноўленага самым-жа Хрыстом сусьветнага пастыра, але натвораць сабе сваіх цэркваў, больш або менш падобных да Царквы Хрыстовай, каб толькі самым стацца іх найвышэйшымі пастырамі, каб не падчыняцца таму пастыру, якога сам Хрыстос устанавіў. Бачыў Хрыстос, што паўстануць розныя адшчапенствы, ерэсі і сэкты, якія будуць сябе называць Хрыстовымі Цэрквамі і дзеля гэтага маліўся, каб усе былі адно. Вось-жа, найдаражэйшыя, каб узрадаваць закрываўленае раздорамі Сэрца Хрыстовае, трэба нам і Вам, трэба ўсім Хрысьціянам шчыра ўзяць сабе да сэрца, што павінны мы ўсімі нашымі сіламі імкнуцца да злучэньня ўсіх у адно.

Адкіньма, Браты, ўсякую гордасьць, якая падахвочвае нас, каб усяму спраціўляцца, каб усюды паставіць на сваім, але, стаўшы ціхімі і пакорнымі сэрцам, якнайчасьцей, ды якнайгарачэй прасем Духа Сьвятога, каб Ён адкрыў нам праўду, каб даў пазнаць, дзе яна знаходзіцца, палюбіць яе ўсёй душой і прыняць яе.

Ня боймася шукаць праўды ў каталіцтве. Шукаюць яе там шмат якія духоўнікі адлучанай англіканскай царквы, шукаюць шмат якія пратэстанскія пастыры і знаходзяць. Знайшлі яе там князі Волконскія, графы Толстой, Тышкевіч, Гагарын, Верыгін, Дэйбнэр, Печорын, Еврэінов Зерчанінов, Федоров і шмат, шмат іншых, ня стыдаймася і мы пайсьці іх сьлядамі. Ня боймася „ўладалюбства“ Папы Рымскага. Ён нічым ня страшны, хто яго пазнаў, той яго лю-

біць, той рад, што служыць Богу пад вярхоўнасьцю рымскага патрыарха, кіруючага Хрыстовай Царквой па волі таго-ж Хрыста, той не называе папы інакш, як „Айцом,“ таму шмат мілей залежаць ад рымскага айца, чымсь ад якогась праваслаўнага „Владыкі.“

Папа рымскі гэта айцец, гэта „слуга слугаў Божых,“ а ня „Дэспот“ ці Вялікі Гаспадзін, ці „Ўладыка“. — Цяжасьць яго салодкая, а бярэмя яго лёгкае. А галоўная рэч, што ўладу рымскага патрыарха ўстанавіў сам Хрыстос, калі паручыў сьвятому Пётры пасьвіць ягняты свае і авечкі свае, а гэткім чынам даў яму тыя ключы Царства нябеснага, якія калісь абяцаў даць, кажучы: „Табе дам ключы Царства нябеснага; і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана на небе, а што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана і на небе“ (Мац. 16,19).

Вось, хто слухае наступніка сьв. Пётры, той слухае самога Хрыста, а хто яму спраціўляецца, той спраціўляецца самому Госпаду Ісусу Хрысту, Каторы і сказаў: „Хто вас слухае, Мяне слухае, а хто вамі пагарджае, той Мною пагарджае.“ Дык ня боймася „Браты,“ пайсьці пад уладу „айца“, пастаўленага Хрыстом Богам! Вярнемся да яго, як вярнуўся блудны сын! Адзін з духоўнікаў, перайшоўшых з праваслаўя ў „унію“ казаў мне, што галоўным фактарам пацягнуўшым яго ў каталіцтва, (не забывайма, што „унія“ і каталіцтва — гэта адно) быў Люрд. Ані праваслаўе, з дня разлучэньня з каталіцтвам, ані якая іншая вера ня можа пахваліцца нечым падобным да Люрду.

(У Люрдзе, у Францыі, ад 1858 году, калі Марыя Маці Божая паказвалася беднай дзяўчынцы Бэрнардэце (цяпер ужо яна сьвятая) дзеюцца такія цуды, якіх нідзе, ні ў якой веры няма і быць ня можа. Француз Артус у 1871 годзе палажыў у залог 10.000 франкаў, назначаючы іх даць таму, хто даказаў-бы, што хоць адзін з цудаў у Люрдзе, прызнаных за гэткі лекарскаю тамашняю камісіяй, ня ёсьць цудам; грошай гэтых ніхто не дастаў, бо ніхто не дакажа, што тыя цуды — ня цуды).

Я ад сябе дадам, што каталіцтва мае не адзін Люрд, але і шмат іншых цудоўных рэчаў, пацьвярджаючых праўдзівасьць каталіцтва, напр. Лімпіас у Гішпаніі, Фатімэ у Партугаліі, Борэн у Бэльгіі.

Сам Хрыстос дзеля пацьвярджэньня свае Божае навукі рабіў цуды: перамяніў ваду ў віно, размножваў хлеб, аздараўляў хворых, выганяў чарцей, васкрашаў памёршых... І цяпер Ён-жа робіць ад часу да часу цуды ў сваёй праўдзівай Царкве.

Дык вось, Браты Найдаражэйшыя, адкінуўшы гордасьць і ўпярэджаньні да каталіцтва, пазнайма яго з блізка, углыбемся ў яго сэрца, у яго чыстую істоту і пераканаем-

ся, што ў ім праўда Хрыстова, што яно Цэрква Хрыстовая адзіная, сьвятая, саборная і апостальская, дый прыймем гэтае каталіцтва, або злучэмся з ім, каб больш ня было між авечкамі Хрыстовымі раздораў і спрэчкаў, але каб ужо споўнілася прароцтва Хрыстовае: **„И ины овцы имамъ, яже не суть отъ двора сего: и тыя ми подобаетъ привести: и гласъ Мой услышатъ и будетъ едино стадо, и единъ пастырь (Іоан. 10,16).**

*Сьвяшч. Б. П.*

---

# Узмоцненая барацьба з рэлігіяй у Саветах.

1934 год зазначыўся яшчэ большым прасьледаваньнем рэлігіі з боку чырвоных дыктатараў, бо Камінтэрн пачаў энэргічную прапаганду атэізму. Як ведама, у бягучым годзе мае адбыцца ў Маскве сусьветны зьезд камуністычнага Інтэрнацыяналу. Зьезд гэты напэўна прычыніцца да яшчэ большага прасьледаваньня няшчаснае жменькі духоўнікаў, якія засталіся дасюль на савецкім абшары, а таксама і ўсіх тых, хто і надалей аддае чэсьць Богу. Але ня толькі ў самай Расеі дае сябе заўважыць узмоцненая бязбожніцкая акцыя; яна распасьціраецца і на іншыя дзяржавы, перш за ўсё на Францыю і Злучаныя Штаты. Запэўненьні Літвінава, аб'яжджаўшага ў пачатку сёлетняга году Эўропу і Амэрыку, што Расея ані не прасьледуе сяньня рэлігіі, пакідаючы ёй поўную свабоду, проста не згаджаюцца з істнуючым станам справы. Аб гэтым найлепш сьведчыць той факт, што зараз-жа пасьля павароту гэтага саноўніка ў Саветы, пачаліся ізноў масавыя прасьледаваньні і акты гвалту над асобамі духоўнікаў, як каталіцкіх, так і іншых веравызнаньняў. Сьвята Хрыстовага Нараджэньня і Вялікадня паслужыла для бальшавіцкіх уладаў аказіяй дзеля разьвіцьця зарысованай у шырокім маштабе бязбожніцкае прапаганды, выражанае перш за ўсё ў арганізаваньні антырэлігійных выставак, у зачыняньні цэркваў і ў зьмене дасюлешніх сьвятыняў на бязбожніцкія музэі. Пісалі і пішуць аб гэтым часопісі блізка што ўсіх нацыянальнасьцяў. Урэшце найлепш сьведчыць сама савецкая прэса, якая (як напр. спэцыяльныя бязбожніцкія часопісі — „Безбожник“ і інш.) гардзіцца гэтаю бязбожніцкаю дзейнасьцю. Хопіць груба пераглядзець гэтыя часопісі, каб згубіць ілюзіі, гэтак моцна падтрымліваныя сымпатыкамі бальшавіцкага рэжыму, датычна „нешкадлівасьці“ распараджэньняў ГПУ, Камінтэрну і іншых

уладаў чырвонае Расеі. Адным з найбольш характарных ёсьць твор Лукашэўскага, выданы ў Маскве ўрадавым бязбожніцкім выдавецтвам пад назовам: „Марксизм и ленинизм — воинственный атеизм“. Вось пара выняткаў з гэтае кніжкі: „Матэрыялізм ёсьць неўмалімым ворагам рэлігіі“... „Марксызм і ленінізм — гэта тэорыі аб ваяўнічым атэізьме. Рэвалюцыйны пралетарыят, які борацца за трыумф соцыялізму, ня можа не бароцца з рэлігіяй“...

Другою характарнаю публікацыяй ёсьць кніга таго-ж самага Лукашэўскага: „Новы антырэлігійны падручнік“, у якім чытаем: „Трэба ўмець бароцца з рэлігіяй — вось лёзунг марксызму-ленінізму“. „Пралетарская партыя борацца з рэлігіяй і вымагае гэткае барацьбы ад кожнага камуніста“. „Антырэлігійны фронт ёсьць аднэю з дзялянак агульнага пралетарскага фронту ў барацьбе за соцыялізм“. „Камуністычныя партыя заўсёды баролася з рэлігіяй. Савецкія ўлады, як улады работніцкія, таксама боруцца з рэлігіяй. Савецкая школа творыць антырэлігійнае выхаваньне, прэса, кіноматограф, радыё, савецкая літэратура таксама борацца з рэлігіяй“. „У СССР маем больш як 400 антырэлігійных колхозаў“. „Барацьба з рэлігіяй павінна быць вельмі ўзмоцненай у працягу другое пяцёхгодкі“.

Падобным спосабам адносяцца да рэлігіі і іншыя савецкія выданьні, сьведчачы гэтым, што, ня гледзячы на запэўненьні Літвінава, Сталін ані не закідае бязбожніцкае акцыі, лічачы яе падвалінаю бальшавіцкае сыстэмы.

А вось як выглядае **„культура“ ў Савецкіх ізоляцыйных лягерох.** 7-га красавіка 1930 г. Рада Народных Камісараў СССР абвясьціла дэкрэт аб Лягерох Прымусовае Працы. З дэкрэту відаць, што лягеры гэтыя маюць быць месцам прабываньня, перш за ўсё, для тых, хто „пагражае грамадзкаму парадку і зьяўляецца спэцыяльна небясьпечным“. Аднак-жа ў замеры ўрадовых дзейнікаў уваходзіць ня толькі пакараньне „праступнікаў“, але, — як гэта падчырквае з націскам дэкрэт, — таксама і „выхаваньне іх на добрых грамадзян Соцыялістычнае Рэспублікі“. Дзеля гэтага савецкі ўрад і загадвае, каб у лягерох працы ўведзена была энэргічная прапаганда камуністычных прынцыпаў. Гэтую прапаганду сярод інтэрнованых вядуць розныя „культурна асьветныя“ і „культурна-выхаваўчыя“ сэкцыі, чытальні, клюбы, бязбожніцкія выстаўкі, г. зв. „чырвоныя куточкі“ і г. д.

Як выглядае гэтае „культурна-асьветнае“ выхаваньне інтэрнованых?

Вось што расказвае аб гэтым асоба, якая тры гады пражывала ў адным з гэткіх лягероў:

„80 арыштантаў замкнута ў адной камэры, прызначанай на 25 чалавек. Людзі ляжаць на зямлі покатам, блізка

што адзін на адным. Недахоп паветра, недахоп вады, страшэнная маса паразытаў... Ці-ж можа быць у гэткіх гігіенічных варунках, пры гэткім упадку духу гутарка аб „тэатры“? Аднак-жа ў кожным вастрозе, у кожным лягеры заўсёды ёсьць тэатр. Няраз не хапае пакою, у якім арыштанты маглі-б спаць, але тэатр ёсьць абавязкава, а назоў яго гучыць, — заўсёды згодна з распараджэньнем уладаў, — „Культурпросвет“ або „культурна-асьветная пляцоўка“. У большасьці выпадкаў тэатральныя салі ўладжаны ў былых сьвятынях — праваслаўных ці каталіцкіх, паложаных на абшары лягеру. Вельмі шмат лягероў знаходзіцца на абшарах былых манастыроў. У гэткіх выпадках тэатр месьціцца ў прылеглай катэдры або царкве. Прыпамінаю сабе дакладна тыя мамэнты, калі я з таварышкамі нядолі мусіла мыць падлогу ў гэткім тэатры-царкве ў лягеры на поўначы савецкае Расеі. Іконы даўно зьнішчаны, фрэскі замалёваны белаю алейнаю хварбаю. Толькі высока, пад купалам, застаўся адзін-адзіны фрэск, прадстаўляючы Хрыста, якога не магла дастаць камуністычная рука. Сілкуючыся змыць цёмныя плямы, якія здавалася навекі ўеліся ў каменную падлогу сьвятыні ў адным месцы тут-жа пад аўтаром (як пасьля я даведалася, у гэтым месцы забіты быў адзін духоўнік, калі цэлебраваў Сьвятую Ахвяру), я заўсёды тайком паглядала ўгару, скуль глядзелі сумныя вочы Збаўцы“...

(Масква. КАП).

# Наш адказ.

За апошнія часы ў варшаўскім «Слове» ды іншых расейскіх часопісях шмат пісалася аб прымірэньні Мітрапаліта Эўлёгія з Парыжа ды Мітрапаліта Антонія ў Карловіцах. Выяўлялася вялікая радасьць ад гэтага прымірэньня Мітрапаліта.

Апошнія газэты даносяць, што радасьць была перадчаснаю: згода не наступіла і здаецца яе ня будзе. Не наступіла згоды ды злучэньня аднае часьці царквы з другою дзеля таго, што Архірэйскі Сынод у Срэмскіх Карловіцах вымагаў ад Мітрапаліта Эўлёгія падчыненьня ды лічыў Мітрапаліта знаходзячымся яшчэ пад караю **запрещенія** і патрабуючага **прощенія**.

Ведама, што калі Пратаерэй Красьніцкі, павадыр жывацаркоўнікаў у Расеі, пажадаў пагадзіцца з Патрыархам Ціханам, дык той адразу яго прыняў да вышэйшае царкоўнае рады, аб віне ды прабачэньні і ня было мовы. Мітрапаліт Эўлёгі зрабіў першы шаг да прымірэньня, паехаў да Мітрапаліта Антонія ў Карловіцы. Думаў, што настане прымірэньне без падчыненьня, аднак-жа памыліўся.

Гэты факт яшчэ раз пацьвярджае праўду, што жоралам разлучэньня ёсьць пыха, неахвота падчыніцца.

Лучнасьць ды адзінства хрысьціян было да таго часу, пакуль не знайшліся архірэі, якія не пажадалі падчыняцца наступніку Сьв. Пётры.

Гэтае жаданьне быць незалежным стварыла пэнтархію (пяць незалежных патрыархаў); за апошнія часы ўжо бачым 26 цэркваў, якія лічаць сябе незалежнымі, аўтокэфальнымі. Што раз, то ўсё больш ды больш будзе такіх „незалежных“ цэркваў. Кожная рэч матар'яльная, калі пачынае гнісьці, дык раскладаецца на часьці, таксама і супольнасьць людзей, якая-б яна ні была, ці сьвецкая, ці духоўная, калі распадаецца на часьці, гэта значыць што прыбліжаецца да гібелі, да зьнішчэньня.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Кракаў. (Кап). Адозва Кс. Мітрапалітага Адама-Стэфана Сапегі, Архіяпіскапа Кракаўскага аб паводцы.** Разьмеры паводкі, якая заліла Падкарпацьце і самую ўраджайную часьць Малапольшчы заходняй, перайшлі ўсякія чаканьні. Ахвяраю паводкі ўпалі ня толькі вёскі, але і шмат якія гарады: Новы-Торг, Новы-Сонч, Мысьленіцы, Тарноў, Горліцы, Ясло, Ропчыцы і г. д. Магутная стыхія ня зьлітавалася ні над чым і ні над кім, зьнішчыла маемасьць і дабытак шмат якіх пакаленьняў і праглынула значныя ахвяры людзьмі.

У зразуменьні гэтае вялікае катастрофы, Я. Э. Кс. Мітрапаліт Адам Стэфан Сапега выдаў да духавенства свае архіепархіі адозву гэткага зьместу:

„З прычыны нябывалае катастрофы паводкі, якая закранула гэтак значную часьць нашага краю, прызываем Вялебнае Духавенства, каб узяло гарачы удзел у ратунковай акцыі, якую пачалі ўрадовыя ўлады, і заахвоціла жыхарства да дзейнае помачы ў гэтай працы. Адначасна загадваем, каб ува ўсіх Цэрквах нашае Епархіі зараз-жа, пасьля атрыманьня гэтае Нашае адозвы, адпраўлены былі малітвенныя набажэнствы дзеля выпрашэньня Божага міласэрдзя і ўхіленьня ўсё яшчэ грозячай бяды.“

**Альбэртын.** Пакінуў Альбэртын на адзін год дзеля трэцяе спробы а. Пётра Бужак ды паехаў у Львоў. На яго месца ўжо прыехаў а. Сьцяпан Сьлівінскі, які скончыў у гэтым годзе багаслоўскія навукі ў Любліне.

**Дубно.** На месца выехаўшых айцоў Досталя і Мурыльлё, назначаны прафэсарамі ў папскай ўсходняй сэмінарыі а. Антоні Неманцэвіч, рэдактар „Да Злучэньня“ ды а. Вутс, з Бэльгіі. Рэдакцыя часопісі „Да Злучэньня“ пераносіцца фактычна разам з а. Неманцэвічам да Дубна.

**Сынковічы.** Дзеля таго, што немагчыма было ў Сынковічах, па прычыне малога дому, стварыць манастыр і манастырскае жыцьцё, а. а. Езуіты рашылі пакінуць Сынковічы, — а. Антоні Неманцэвіч Т. І. быў пераведзены на становішча прафэсара ў Дубно, на яго-ж месца назначаны ўжо сьвецкі сьвяшчэньнік а. Антоні Шарэйка, гадунец папскае дубненскае сэмінарыі.

**Апостальскі Адміністратар на Лемкаўшчыне.** Замест а. Мікалая Нагор'янскага, які адмовіўся ад назначэньня на Апостальскага Адміністратара на Лемкаўшчыне, Рымскі Папа назначыў а. Др. Васіля Масцюха родам з Лемкаўшчыны.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Горад Ватыкан (Кап). Фальшывыя погаласкі, нібыто Царква згаджаецца на стэрылізацыю.** Ссылаючыся на весткі, што адзін прафэсар у Нямеччыне даказвае, што закон аб стэрылізацыі даўся-б пагадзіць сябе з энцыклікаю „Casti connubii“, ватыканскі афіцыёз „Osservatore Romano“ заяўляе, што ён упаважнены выясьніць, што гэткага роду цьверджаньне ёсьць з грунту фальшывым і пазбаўленым усякага абаснаваньня.

**Мадрыд. (Кап). Каталіцкая Акцыя ў Гішпаніі.** Як падае выходзячая ў Толедо часопісь „Semana Regiosa“, лік сяброў Каталіцкае Акцыі ў Гішпаніі павялічыўся ад лістапада 1933 году на далейшых 210.000, так што цяпер збліжаецца да паўмільёна.

Аддзелы Акцыі ёсьць цяпер ува ўсіх большых цэнтрах краю. На апалітычны характар Акцыі паказвае хоць-бы тое, што да ўладаў мясцовых аддзелаў належаць як манархісты, так і рэспубліканцы.

**Рым. (Кап). Аб злучэньні Цэркваў.** Паміж 2 і 9 верасьня адбудзецца ў Вэнэцыі трэці ўсходні тыдзень малітвы і студыяў, пасьвячаны справе ўніі Праваслаўнае Царквы з Каталіцкім Касьцёлам. Першая часьць тыдня пасьвячана будзе літургічным проблемам, а другая маленьням і студыям. Прадбачацца дзьве вялікія прамовы япіскапа суфрагана Вэнэцыі, а таксама і вэнэцыянскага патрыярха Кардынала Ля-Фонтэнэ. На закончаньне тыдня скажа прамову архіяпіскап з Палермо Кардынал Лявітрано.

**Ватыкан. (Кап). Сьляпыя ў сьв. Айца.** 19-га ліпня с. г. Сьв. Айцец даў аўдыенцыю выхаванцам рымскіх інстытутаў для сьляпых, кірованых ордэнамі Сомаскаў і Сёстраў з Каль-

варыйскае Гары. Адзін з сьляпых прачытаў адбіты па сыстэме Брайля адрэс да сьв. Айца, пасьля ахвяраваны былі Папе розныя вырабы, нязвычайна спрытна выкананыя сьляпымі. У прамове, сказанай да сьляпых, Сьв. Айцец пацяшаў іх у іхным калецтве, зазначаючы, што перад Вечнаю Праўдаю мы ўсе зьяўляемся сьляпымі і заўсёды павінны маліць Бога аб сьвятле, неабходным дзеля пазнаньня найбольш жыцьцёвых і найболей шанованых праўдаў.

**Дублін. (Кап). Вялікая маніфэстацыя рэлігійных пачуцьцёў у Ірляндыі** У Бэльфасьце адбыўся вялікі гадавы зьезд каталіцкіх арганізацыяў, які зрабіўся маніфэстацыяй рэлігійных пачуцьцёў усяго Ірляндзкага грамадзянства. На зьезьдзе было больш як 100.000 верных, прыбыўшых з усіх бакоў Зялёнага Вострава. Урачыстае набажэнства адправіў Я. Э. Кардынал Мак Роры, Прымас Ірляндыі.

**Ватыкан (Кап.) Пакліканьне 1100 новых духоўнікаў арганізацыі „Balilla“.** Дзеля таго, што фашыстоўскі саюз моладзі „Балільля“ ўвесь час разьвіваецца, аказалася неабходным назначэньне пры гэтых фармацыях новых капэлянаў. Хоць у працягу апошніх месяцаў назначана ўжо 1300 сьвяшчэньнікаў, цяпер паклікана яшчэ 1100 капэлянаў. Блізка што ўсе клірыкі сьвецкага духавенства зьяўляюцца дзейнымі ў гэтай арганізацыі моладзі, але праўдападобна будзе пакліканы, у меру патрэбы, таксама і манашаскі клір.

**(Кап.) 350 гадоў Марыянскіх Содаліцыяў.** 5-га сьнежня бягуч. году будуць абходзіць усе Марыянскія Содаліцыі 350-тыя ўгодкі першае папскае бульлі Грыгора XIII, пацьвярджаючай Содаліцыю „Prima Primaria“ рымскае калегіі Таварыства Ісусавага.

Закладчыкам Марыянскіх Содаліцыяў быў а. праф. Іоан Лёйніс Т. І., родам з Бэльгіі. Таксама ён быў тварцом раду Содаліцыяў у Італіі і Францыі. Праз нядоўгі час яны пашырыліся па ўсім каталіцкім сьвеце.

**Вашынгтон. (Кап.) Рэзультат энэргічнае акцыі каталікоў проці неморальных фільмаў.** Каталіцкая Акцыя ў Злучаных Штатах пад кіраваньнем япіскапату пачала энэргічную барацьбу з неморальнымі фільмамі, паказванымі ў большасьці амэрыканскіх кінематографаў і масава прадукаванымі ў фільмовых закладах Хольлівуд. Байкот фільмаў, праціўных асновам хрысьціянскім, праз параўнаўча нядоўгі час, зрабіў, як відаць, сваё: у Філядэльфійскай епархіі уласьнікі кінематографаў змушаны былі з прычыны недахопу публікі зачыніць некалькі кінаў, а яшчэ прадбачыцца зачыненьне аж 450 кінаў па гэтай самай прычыне. Гэта паважная здабыча солідарнае акцыі, паднятае каталіцкім агулам проці прапаганды неморальнасьці, ведзенае апошнім часам прадуцэнтамі амэрыканскіх фільмаў. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе, замест агідных, бессэнсоўных і аморальных фільмаў,

выслаўляючых забойствы, фальсыфікацыі, малжэнскія здрады, простытуцыю і г. д., можна будзе аглядаць амэрыканскія фільмы вышэйшага, як моральнага, так і артыстычнага роўня.

**Брусэль. (Кап). Цяперашні стан найсільнейшае сялянскае каталіцкае арганізацыі.** Бэльгійскі „Boerenbond", найсільнейшая сялянская каталіцкая арганізацыя, налічвае цяпер 255.075 сяброў, у тым ліку 121.344 бацькоў сем'яў (у 1244 парафіяльных сэкцыях). 100.095 матак, 17.264 мужчынскае і 16.341 жаноцкае вясковае моладзі.

Варта зазначыць, што гэты землябробскі саюз за апошні адміністрацыйны год прадаў зямельных прадуктаў на 83 мільёны франкаў. Банк яго мае мільярд шэсьцьсот мільёнаў франкаў ашчаднасьцяў сваіх сяброў, а ўласны страхавы заклад налічвае 208 000 полісаў сваіх сяброў на агульную суму прэміяў 55 мільёнаў франкаў. Як ведама, саюз гэты ёсьць флямандзкаю арганізацыяй, ня мае роўных сабе на сьвеце і заўсёды служыць узорам землябробскіх каталіцкіх арганізацыяў.

**(Кап.) Каталіцкія мучанікі Нямеччыны.** Ахвярамі крывавых рахункаў павадыроў сяньняшняга рэжыму ў Нямеччыне з людзьмі, якія ім, з розных прычын, ня былі сымпатычнымі, ўпала шмат выдатных каталіцкіх дзеячоў з д-рам Кляўзэнэрам, прэзэсам Каталіцкае Акцыі ў Бэрліне і Адальбэртам Пробстам, кіраўніком Каталіцкага Саюзу Моладзі „Deutsche Jugendkraft" на чале. Як у шмат якіх падобных выпадках, самую сьмерць і яе акалічнасьці стараліся пакрыць тайнаю. Аднак жа заслона расхіляецца, паказваючы балючую і нявымоўна жорсткую праўду. Венская „Reichpost" публікуе шмат гаворачыя падробнасьці арышту і сьмерці сьв. п. Адальбэрта Пробста, атрыманыя ад аднаго з яго прыяцялёў з Надрэйнскае правінцыі. А. Пробст у памятную пятніцу 29 чэрвеня быў выкліканы ў Бэрлін, каб, як кіраўнік саюзу каталіцкае моладзі, узяць удзел у працах над выкананьнем конкордату. Дзеля таго, што жонка яго некалькі дзён не атрымлівала ад яго ніякіх вестак, дык зьвярнулася да дырэкцыі дюсэльдорфскае паліцыі, каб пачаць шуканьне. Адказ быў вельмі круцельскі. Толькі ў Бэрлінскай тайнай паліцыі сказана было а. Волькэру, гэнэральнаму прэзэсу саюзу катал. моладзі, што Пробст „**у інтарэсе дзяржавы арыштованы і расстрэлены**". Адначасна жонка нябожчыка атрымала афіцыяльную вестку ў Дюсэльдорфе, што яе муж „у часе ўцяканьня застрэлены", а прах яго будзе ў урне дастаўлены ёй поштаю. Гэткаму афіцыяльнаму прадстаўляньню прычын расстраляньня Пробста ня верыць „Osservatore Romano" і сьцьвярджае, што яно вельмі прыпамінае пашыраную на пачатку вестку аб „самагубстве" Кляўзэнэра.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

* * *

Маці — вось слова сьвятое,
Яго Бог дзеля нас усьвяціў.
Маці — імя дарагое.
О, мама! Як Ісус сааю Матку любіў.
Расьцём мы й ня ведаем, мама,
Колькі Ты церпіш для нас і маўчыш,
Што хаваеш ты сьлёзы і гора,
А на нас Ты з любоўю глядзіш...
О, мама мая! Ты, як ангел ад Бога,
Над калыскай умела ня спаць,
Малілася Богу, каб быў я здаровы,
Каб магла Ты мяне гадаваць.
Толькі Бог адзін сьведка, як Ты пацярпела,
Колькі ночаў бяз сну правяла,
Каб мяне гадаваць, каб здароўе я меў,
Для мяне Ты жыцьцё аддала.
Калісь Тваё сэрца ня ведала гора,
Калісь Ты вясёлай была...
А сяньня?..Клапоты штодзеннага хлеба,—
О, мама, аб дзетках забыць не магла.
Дзякуй Табе, дарагая,
За працу, любоў для мяне!
Хай Божая шчодрая ласка сьвятая
Нагародзіць, о, Мама, Цябе!

---

## За што?

Юрка сяньня вельмі радасны і вясёлы. Сядзіць ён у сваім „царстве“ цацак, а гэтак называўся куток у пакоі за вялікаю люстраною шафаю. Прайсьці мог туды толькі ён сам, дый то з вялікім трудом. А ў кутку гэтым, дзе яго ніхто ня бачыць, — увесь яго сьвет, тамака ўсё яго шчасьце — яго цацкі. Ёсьць тутака і шэры мядзьведзь, і вялікі мячык і некалькі малых у сетцы, скрыначка з алавянымі жаўнерыкамі. На канапе з скрыначак ад сернікаў сядзіць маленькі жоўценькі сабачка і важна глядзіць на Юрку,

а на сьцяне, над канапай, вісіць гадзіньнік — алавяная накрыўка з баначкі.

Юрка прыйшоў у сваё „царства“ і цяпер пачынае гутарыць з медзьвядзём, пасьля з жаўнерыкамі, б'е ў алавяную бляшку-накрывачку, прыпамінаючы ім час вайсковай навукі.

Мінуты ляцяць няпрыметна, але раптам чуе Юрка добра знаёмы і дарагі голас мамы. Выходзіць ён з свайго „царства“ і весела бяжыць насустрэчу дарагой маме, і праводзіць з ёю час у садзе, дзе цяпер расьцьвіла вясна і грае радаснае сонейка. Тутка ён памагае маме палоць градкі, прыглядаецца да кожнай кветкі, гутарыць з імі, прыглядаецца, як лётаюць птушкі-шчабятушкі, або матылькі... Усё сьмяецца да яго, усё цешыцца, і ён сваёю чыстаю дзіцячаю душою гэтак радасна, даверліва да ўсяго падыходзіць.

Ён любіць усё і ўсіх. Яго дарагая маці кажа, што гэта Бог стварыў гэтыя кветкі, птушкі, што Бог на ўсё гэта глядзіць і любіць, што Бог сам жыве тутака, сярод іх. І маленькі Юрка весела бегае сярод градак кветак, па сьцежках, па травіцы, або сядзе дзе-небудзь ціха пад кустам, прыслухоўваецца, і яму гэтак добра, гэтак весела, ён чуе гэтак блізка Бога, і яму вельмі-вельмі хочацца пабачыць ангела.

А па палудні нешта ў прыродзе зьмяняецца: памалу насоўваюцца хмары, робіцца душна, горача, усё ў прыродзе як-бы бясьсільна заціхае... толькі птушкі нізка лётаюць і неяк трывожна шчабечуць.

Юрка сядзіць на каленах дарагое свае мамы і разам з ёю глядзіць праз вакно, як алавяныя хмары пакрываюць неба і спушчаюцца ўсё ніжэй і ніжэй. Блiснула маланка... гром...

— Мама, — кажа Юрка, — няня казала, што гэта Бог гневаецца.

— Так, сынок, — адказвае маці.

— А на каго Ён гневаецца?

На непаслухняных дзяцей і на злых людзей.

— Мама, а чаму яны злыя, а дзе яны, а чаму Бог на іх гневаецца? — закідваў Юрка пытаньнямі сваю маму, а вочкі яго шырока расплюшчваліся, калі ён чуў, што ёсьць на сьвеце і „злыя“ людзі.

Гром грымеў усё мацней, маланка бліскала ўсё часьцей ды часьцей, і раптам пачулі яны, як моцна ўдарыў гром і сьціх.

— Мама, гэта Бог дошку кінуў з неба на злых людзей, — сказаў Юрка, а сьлёзы блішчэлі ў вачох.

— Мама, памалемся, каб Бог больш ня кідаў дошчак на людзей!

І маці з сынам стала на калены і горача прасіла Бога, каб ня гневаўся на людзей.

А ўвечары, калі маці малілася з Юркаю, ён горача прасіў сваім чыстым сэрцам, каб Бог ні на каго ня гневаўся, што ён, Юрка, усіх гэтак любіць, што яму шкада гэтых „злых“ людзей, і абяцаў Богу, што сам будзе вельмі добрым, будзе вельмі любіць маму і ніколі ня будзе мучыць нават коціка, і не абарве больш лапкі свайму мядзьведзю.

Час ішоў... праходзіў... Юрка рос і жыў сярод радасьці, шчасьця і ласкі свае любячай мамы Ён гэтак любіў яе, не пакідаў яе ані на мінуту, закідваў яе пытаньнямі, і яна вучыла яго, як трэба жыць... Ён-жа быў адзін у яе...

Таты ён ніколі ня бачыў, помніць толькі, што мама часта хадзіла з ім у нейкі вялікі сад, дзе шмат было крыжоў, і мама, у чорнай, доўгай вуалі, сядзела каля аднаго крыжа, а ён гуляў у пясочак або зрываў палявыя кветкі і кідаў пад гэты крыж...

Час ішоў, праходзіў...

Юрка жыў, абкружаны сонцам - любоўю свае мамы і абкружаўшых яго, і сам быў, як сонейка, для ўсіх... Ён усім нёс радасьць, веселасьць. Сам добры, як ангел, ён думаў, што ўсё добрыя.

Час ішоў, праходзіў...

Юрка заўважыў, што мама неяк часта задумваецца, не сьмяецца так часта. Заўважыў, што піражкоў ён ужо ня еў так часта. Аднойчы пачуў ён гутарку мамы з няняю.

— Ой, няня, — казала маці, — цяжка нам цяперака тутака ў Расеі, бальшавікі...Я баюся, што мы з голаду памрэм, а галоўнае тое, што яны Бога не прызнаюць, ні царквы...

Юрка задумаўся, ён пачуў муку ў голасе маткі і яго любячае сэрца сьціснулася.

— „Хто гэта гэтыя бальшавікі? — думаў ён, — як гэта яны не прызнаюць Бога, што гэта значыць?... А можа гэта і ёсьць гэтыя „злыя“людзі, на якіх Бог дошкі кідае“? — успомніў Юрка.

Час ішоў, праходзіў...

І прышоў нарэшце час, калі трэба было абавязкава паслаць Юрку ў школу, інакш гразіла і яму і матцы вялікая небясьпека. О, як цяжка было нават падумаць матцы аб тым, што мусіць яго аддаць у бальшавіцкую школу, дзеля таго, што іншай і ня было: усюды ўжо былі бальшавікі і ўсюды ўжо разышлася атрута камунізму. Аднойчы Юрка заўважыў, як нейкі чалавек у высокай шапцы, з чырвонай зоркай на ёй, аб нечым гаварыў доўга і злосна з маткаю і часта паўтараў яго імя.

Час ішоў, праходзіў...

Аднойчы, — было гэта пад канец лета, — мама ўзяла яго, Юрку, і пайшла. Доўга яны ішлі і нарэшце прыйшлі да аднаго дому, а праз падворак гэтага дому і праз маленькія дзьверы ціха прайшлі ў царкву. Тамака сталі перад сьвятым Кіотам, куды раней ён з мамай гэтак часта хадзіў, — прыводзіў яго сюды і старэнькі, сівы бацюшка і гаварыў ціхім голасам аб Хрысьце, аб ангелах і аб Матцы Божай... Аб тым, як Матка Божая любіць маленечкіх дзетак з чыстым сэрцам... І сам ён часта сюды прыходзіў, ведаў, што тутка жыве Хрыстос, любіў прыкладацца да Дарахраніцельніцы і гаварыць з Хрыстом... А была там гэткая прыгожая ікона Маткі Божае з Малым Ісусам на руках...

Цяпер мама ўзяла Юрку за руку, падвяла да гэтае іконы і сказала:

— Маліся, Юрка, да Маткі Божае, прасі Яе, каб апекавалася табою...

А сама таксама стала на калены, схавала твар у руках, праз каторыя капалі на каменную падлогу сьлёзы, і доўга-доўга гэтак малілася .. Нарэшце падняла свае вочы, паглядзела на Матку Божую і ў вачох яе было столькі болю, суму, але і надзеі.

(Канец у чародным нумары).

# Усячына.

—**Забойства аўстрыяцкага канцлера Дольфуса.** 25 ліпня с. г. ў Вене бунтаўшчыкі народныя сацыялісты выстраламі з рэвольвараў забілі канцлера Дольфуса. Дольфус быў вельмі дастойны чалавек, праўдзівы хрысьціянскі жаўнер, меў адвагу быць каталіком ня толькі ў жыцьці сваім прыватным, але і ў публічным. Дзякуючы яму, Аўстрыя мае констытуцыю, абапёртую на праве Божым ды царкоўным. Папа Рымскі вельмі цаніў нябожчыка, сумаваў-жа, даведаўшыся аб яго сьмерці. Двох галоўных бунтаўшчыкоў, забойцаў канцлера, суд прысудзіў на сьмерць. Прысуд выкананы.

—**Сьмерць Прэзыдэнта Нямеччыны.** 2 жніўня с.г. памёр Прэзыдэнт Нямеччыны фэльдмаршал Гіндэнбург. Яго месца заняў Гітлер.

—**Сьвятое Пісаньне** ёсьць найбольш распаўсюджанаю кнігаю на сьвеце. Яно перакладзена больш як на 600 моваў і дыялектаў. Агульны лік томаў Сьв. Пісаньня дасягае цяпер 500 мільёнаў экзэмпляраў.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Верасень 1934 г.

**Стары стыль** — **Новы стыль**

| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | П | Сымона. Царк. новалец. | 14 | P | *Uźwižańnie Św. Kryža* |
| 2 | С | Маманта | 15 | S | *Maci Bož. Bal.* Taresy |
| 3 | Н | **Н. 16 п. П.** Антыпа. | 16 | N | **Karniela. Ludmiły. Cypr.** |
| 4 | П | Вавілы | 17 | P | Franciška |
| 5 | А | Захара | 18 | A | Jazepa. Ireny. |
| 6 | С | Арх. Міхала | 19 | S | *S. dzień.* Januara. Piotry |
| 7 | Ч | Сазона | 20 | Č | Austachieja |
| 8 | П | **Нар. Пр. Багародзіцы** | 21 | P | *Suchi dzień.* Macieja |
| 9 | С | Якіма і Ганны | 22 | S | *Suchi dzień.* Maŭryca |
| 10 | Н | **Н. 17 па П.** Мінадоры | 23 | N | **Tekli** |
| 11 | П | Хвядоры | 24 | P | *M. Bož. adkup. z niawoli* |
| 12 | А | Аўтанома | 25 | A | Uładysława. Kleofasa |
| 13 | С | Карніла | 26 | S | Kipryjana. Justyny |
| 14 | Ч | **Узьдзьвіж. Крыжа Госп.** | 27 | Č | Kuźmy i Dziamjana |
| 15 | П | Мікіты | 28 | P | Wacława |
| 16 | С | Аўхэміі | 29 | S | *Michała Archanieła* |
| 17 | Н | **Н. 18 п. П.** Зофіі | 30 | N | **Heronima** |
| | | | | | KASTRYČNIK |
| 18 | П | Яўмена | 1 | P | Jana. Taresy. Remihija |
| 19 | А | Трахіма | 2 | A | Aniołaŭ Wartaŭnikoŭ |
| 20 | С | Аўстахія | 3 | S | *Taresy ad dz. J.* Kandyba |
| 21 | Ч | Кандрата | 4 | Č | Franciška z Asyžu |
| 22 | П | Фокі | 5 | P | Placyda. Flawii |
| 23 | С | Пачацьце сьв. Іоана | 6 | S | Brunona. Artura. Amila |
| 24 | Н | **Н. 19 п. П.** Тэклі | 7 | N | **M. B. Ražanc.** Marka |
| 25 | П | Эўфрасіньні | 8 | P | Pałahiei. Bryhidy |
| 26 | А | Ап. Іоана Багаслова | 9 | A | Ludwika. Dzianisa |
| 27 | С | Калістрата. | 10 | S | Franciška |
| 28 | Ч | Харытона | 11 | Č | Płakidy. Zinaidy |
| 29 | П | Кірыяка | 12 | P | Maksimiljana. Ludwika |
| 30 | С | Грыгора | 13 | S | Adwarda |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.